Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА

г. Менск, Дом Урада, леваекрыло, 4 паверх, комн. № 405.

Тэл. № 23-287.

№ 3 (39) | Год выдання 2-гі | 9 лютага 1936 г. | № 3 (39)

## Канчаткова выкараніць гандлярска-нэпманскія тэндэнцыі ў рабоце паасобных звенняў промкааперацыі

Друкуемыя ў сёнешнім нумары Гандлёвага Бюлетэня пастановы Наркамунутгандля БССР аб парушэнні радам арцеляў элементарнейшых правіл совецкай палітыкі цэн і выпуска недобраякаснай, зусім нягоднай прадукцыі сведчаць аб тым, што рад кіраўнікоў промкааперацыі не зразумеў гаспадарча-палітычнага значэння пастановы СНК БССР ад 31/VIII—35 г., а таксама перадавога артыкула газеты „Правда“ ад 2/IX—35 г. „Аб рабоце промкааперацыі“.

Праведзеная Наркамунутгандлем праверка некаторых арцеляў і спецпромсаюзаў выявіла рад скажэнняў важнейшых дырэктыў партыі і ўрада ў галіне цэн і якасці, прадукцыі. Гэта гаворыць аб тым, што ў сістэме промкааперацыі не ліквідаваны яшчэ гандлярска-нэпманскія тэндэнцыі і паасобныя кіраўнікі промкааперацыі не вядуць з гэтымі тэндэнцыямі належнай барацьбы.

Так, Магілеўскі магазін скурпромсаюза прадае сандалі нізкай якасці, без прасцілкі і пражкі, па цэнах, як з прасцілкай і пражкай; Глуская арцель „Прагрэс“ выпусціла ў продаж зусім нягодныя па якасці валенкі па яўна спекуляцыйных цэнах—12 р. за пару, замест максімальнай цаны 6 р.—6 р. 50 к.; Парыцкая трыкатажная арцель выпусціла зусім нягодныя па якасці дзіцячыя блузкі па 16 р. 65 к., замест максімальнай цаны 4 — 5 р.; Магілеўская арцель „Чырвоны мебельшчык“ выпусціла ў продаж матрацы „перынка“ па 31 р. 50 к., замест устаноўленых 24 р., і г. д.

Падобныя факты выяўлены і па многім іншым арцелям: Магілеўскія арцелі „1-е Мая“ і імя Крупскай, Бабруйскія—„Чырвоны металіст“ і „Сіла працы“, Менскія —„Чырвоны абутнік“ і „Пролетарый“ і рад іншых.

І гэтыя агідныя факты практыкуюцца пасля неаднаразовых папярэджанняў непасрэдна работнікаў промкааперацыі з боку Наркамунутгандля і Канвенцыйнага Бюро.

Праверка ўстанавіла таксама, што дагаворы па збыту прадукцыі па многіх арцелях за мінулы год не выкананы. Прамфінпланы паасобных галінных саюзаў выкананы за лік заказаў на давальчаскай сыравіне для выпрацоўкі рэчаў унерыначнага спажывання. Саюзы слаба змагаліся за закупку непланавай сыравіны і рэалізацыю вызначаных фондаў фабрычных адыходаў.

Спецсаюзы зусім не цікавіліся захаваннем планава-дагаворнай дысцыпліны. Аб гэтым сведчыць адсутнасць арбітражных спраў у 1935 годзе. Тут склалася, як-бы ўзаемная „амністыя“: пакупнік „задаволен“ атрыманнем якой-бы там ні было прадукцыі, а вытворца задаволен адсутнасцю прэтэнзій з боку пакупніка на нізкую якасць і недагруз прадукцыі. Нагляд за выкананнем дагавораў спецпромсаюзы ўзлажылі выключна на праўленні арцеляў, не ўлічыўшы арганізацыйную слабасць арцеляў і недастатковасць кваліфікаваных работнікаў у арцелях.

З тэй прычыны, што паасобныя спецпромсаюзы не атрымліваюць копій рахункаў (гэта таксама выяўлена праверкай) ад арцеляў, яны пазбаўлены магчымасці сачыць за выкананнем дагавораў і за правільным ужываннем устаноўленых цэн. Адсюль слабы нагляд з боку спецпромсаюзаў за арцелямі.

Галінныя саюзы і арцелі не ўдзяляюць належнай увагі выпуску бытавых вырабаў, ігнаруюць выпуск прадукцыі вялікіх размераў, робячы ўпор на нумары ніжэй сярэдніх.

Наркамунутгандаль, ахоўваючы інтарэсы рабочага і калгаснага спажыўца, будзе і ў далейшым весці рашучую барацьбу з усякімі скажэннямі ў галіне гандля, як у самой промкааперацыі, так і ў гандлёвых сістэмах.

Работнікі гандлёвых сістэм павінны памятаць, што за продаж нядобраякаснай прадукцыі без устаноўленых цэн, яны будуць несці адказнасць, нараўне з вінаватымі ў вырабу гэтага тавара.

Неабходна спыніць узаемную „амністыю“ і змагацца за выкананне заключаных дагавораў памятаючы, што выкананне дагавора ёсць па сутнасці барацьба за якасць прадукцыі.

ЦСФІН.

# У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ Адзначаючы зусім недапушчальна слабы ход рэалізацыі квашанай капусты, Наркамунутгандаль БССР абавязаў дырэктароў кантор Харчгандля, Плодагароднінагандля і начальнікаў ОРС,аў прыняць тэрміновыя меры да забеспячэння магазінаў дастатковай колькасцю квашанай капусты. У далейшым за адсутнасць у магазінах капусты вінаватыя будуць прыцягвацца да самай суровай адказнасці.

Горунутгандлі папярэджаны, што яны нясуць поўную адказнасць нараўне з кіраўнікамі гандлюючых арганізацый за бесперабойны гандаль гароднінай, асабліва капустай.

◆ Наркамунутгандаль пастанавіў перадаць магазіны „Бакалея“ у Менску, Віцебску і Гомелі Беларускай канторы „Гастраном“.

Пастаноўлена таксама адчыніць магазін „Гастранома“ у Бабруйску.

◆ Наркамунутгандаль БССР дазволіў Менхарчгандлю праводзіць продаж гатовага пшанічнага цеста з мукі пшанічнай 96, 85, 75 і 30% памола і здобнага пшанічнага цеста з мукі 30% памола. Цана цеста з пшанічнай мукі ўстаноўлена ў размеры ад 1 р. да 4 р. 20 к. за кгр., у залежнасці ад гатунка мукі. Цана здобнага цеста з мукі 30% памола ўстаноўлена ў размеры 5 р. 40 к. за кгр.

◆ Наркамунутгандаль дазволіў Белпромгандлю арганізаваць гандаль белабулачнымі вырабамі ў сельскай сетцы. Спіс магазінаў, дзе праводзіцца гандаль гэтымі вырабамі, устанаўліваецца Райунутгандлямі.

У тых раёнах, дзе сетка Белхарчгандля перадаецца Белпромгандлю, апошняму дазволена таксама гандляваць печаным хлебам і інш. хлебапрадуктамі.

◆ Загадам па Наркамату Ўнутранага Гандля БССР у Менску арганізуецца спецыялізаваны магазін па продажу кулінарнай прадукцыі (жараная і вараная дзіч, птушка, мяса, салат, венігрэт) і мучных вырабаў. Арганізацыя магазіна дתручана фабрыцы - кухні. Магазін будзе адчынен к 15-му лютага.

◆ Наркамунутгандаль прапанаваў усім хлебагандлюючым арганізацыям неадкладна прыступіць да заключэння дагавораў з хлебазыпякаючымі арганізацыямі на пакупку—продаж хлеба і хлеба-булачных вырабаў у 1936 г. Копіі заключаных дагавораў павінны быць дасланы Наркамунутгандлю БССР.

◆ Усім Горрайунутгандлям забаронена затрымліваць выдачу мукі як для хлебапячэння так і для продажу натурай арганізацыям, якім мука вызначана Наркамунутгандлем па іх заяўкам.

# У Канвенцыйным Бюро Наркамунутгандля БССР

2/І на паседжанні Канвенцыйнага Бюро ўстаноўлены адпускныя цэны на наступныя **вырабы Белкаапінсаюза** з непланавай сыравіны:

**Скураныя вырабы** арцелі „Большэвік“ (Бабруйск)—фр.-вытворчасць.

а) бацінкі мальч. на скур падашве, драўл. шпількі, чорн. хром, разм. 31—34—13 руб.

б) бацінкі мужч. верхн., чорн. хром, на скур. падашве і сцілцы, з др. шпіл., скурнабойка, скразн. палатн. прасц., разм. 40—42—40 руб.

в) лодачкі жаноч., нізкі кабл., верх хром.—шаўрэт, на скур. падашве, шп., набойка скур., разм. 36—38—29 руб.

г) лодачкі жан., выс. кабл., верх чорны, хромшаўрэт, кабл. абцягнуты, скразн., прасц., разм. 36—38—40 руб.

д) бацінкі дзіц., верх хром-шаўр., др. шп., ніз скур., разм. 21—23—9 р. 50 кап.

е) бацінкі мужч., шагрэнь, на гум. пад., шп., разм. 40—42—18 р. 40 кап

ж) валенкі-буркі з груба-шэрсц. сукна, на гум. падашв., др. шп., саюзкі і задн. абшыты скур., разм. 30—32—16 р. 40 кап.

**Швейныя вырабы** арцелі „Большэвік“ (Бабруйск) фр.-вытворчасць:

а) паўпальто мужч., шэрсц. ватн., двубортн., з халод. каўнер., станд. № 161—12, разм. 48—50—61 р. 06 кап.

б) брукі баваўн. мальч., школьн., з манж., станд. № 13—41/13429, гр. 108, разм. 40—42—6 р. 32 кап.

в) таксама без манж.—6 р. 10 кап.

г) брукі бав. дзіц., дашк., са шлейк., каротк., разм. 28—30, станд. № 16—3—1, гр 108—3 р.35 кап.

д) брукі муж. бав., разм. 48—50 з манж., станд. № 261, гр 115—9 р. 34 кап.

е) брукі „галіфэ“, сукон., разм. 48—50, станд. 110—1, гр. № 11,—18 р. Пры наяўнасці задн. кішэні прыбаўляецца 40 кап.

ж) рубашка бав., мальч., з адкл. каўн., разм. 28—30, станд. 162—1, гр. 108—4 р. 92 кап.

з) рубаха баваўн., школьн. з адкл. каўнер., разм. 36—38, станд. 13—9—1, гр. 108—4 руб.

і) брукі „Гольф“ школьн., разм. 40—42, бав, станд. 13—5—1, гр. 108,—5 р. 32 кап.

Прадстаўленыя ўзоры **галаўных убораў**, мальч., фасон „Бельгійка“ і шлем на ваце пастаноўлена **зняць з вытворчасці** з прычыны адсутнасці попыта.

Пры змяненні кошту асноўнага матэрыялу швейных вырабаў Белкаапінсаюза—адпаведна змяняецца цана на розніцу ў кошту матэрыялу.

На гэтым-жа паседжанні ўстаноўлены адпускныя цэны на **вырабы Белкааппромсовета** з непланавай сыравіны.

**Галаўныя ўборы** арцелі „Пролетарый“ (Менск), фр-ка-вытворчасць:

а) шапкі „ушанкі“ дзіц разм., на штучн. мяху, верх малескін—сукно, шэры—5 руб.

б) бацінкі гусаркі палепшан. якасці на скур. падашв., каляр., 10 р. 25 кап., чорн.—10 р.,—вырабы арц. „Каапрамонт“, Віцебскага скурсаюза.

в) бацінкі дзіц., разм. 26—30, палепш. якасці, ніз скур., каляр. 11 р 25 кап., чорн.—11 р.—вырабы арц. „Каапрамонт“, Віцебскага скурсаюза.

У дадатак да пастановы Канвенцбюро ад 17/X—35 г. аб цэнах на абутак з чорнай скуры—вырабы Віцебскага скурсаюза,—устаноўлены адпускныя цэны на абутак з каляровай скуры:

а) паўбацінкі хром., мужч., мехав., на гум. падаш.—16 р. 32 кап.

б) туфлі хром., (ташк. крой) жаноч., мех., гум. падашва—16 р. 82 кап.

в) туфлі хром., жаноч. прашыўн.—17 р. 87 кап.; таксама па 14 р. 43 кап.

г) лодачкі з свінога хрома з адн. рэмешк., адрэзн. саюзка, мех. (скур. і палатн. падкладка)—13 р. 13 кап.

д) бацінкі малочн., хром., праш.—13 р. 87 к.

е) бацінкі малочн., з свін. хрома, мех.—12 р. 77 к.

ж) бацінкі недамер, хром. праш.,—12 р. 44 к.

з) бацінкі дзіцяч. з свін. хрома, мех., гум. пад.—9 р. 48 к.

і) бацінкі дзіцяч. гусаркі хром. парас., скур. пад., гум. наб., мех.—6 р. 37 к.

к) бацінкі акіябрат, хром., на скур. пласц., з гум. наб., механ.—5 р. 46 к.

Канвенцбюро ўстаноўлены наступныя аптова-адпускныя цэны на **вырабы Белкалеспромсаюза** з непланавай сыравіны:

1. Скрыня ўпаков., цесов., з хвойн. піламат., разм. 40×35×26. Куты змацав. бляшан. палоскамі, выпрац. арц. „Ударнік"(Менск) фр-ко-арц.—2 р. 70 к.

2. Таксама разм. 65×37×40 выпрац. той-жа арцелі—3 р. 75 к.

3. Таксама разм. 90×68×45 выпрац. той-жа арцелі— 7 р. 50 к.

4. Таксама разм. 78×37×37 выпрац. той-жа арцелі—4 р. 60 к.

5. Бочка дуб. з 4-ма жал. абруч., разм. 63×45 ёмк. 120 літр., выпрац. той-жа арцелі, фр-ко-арц. Менск—19 р. 80 к.

6. Рэшата фруктов. з абычайкі і лычн. палатна, дыям. 45×55 см., вышыня 15×18 см., выпрац. арц Мазырскага Лесдрэўхімсаюза, фр-ко-станц. адпраўл.—1 р. 30 к.

7. Кошык багажны, лазовы, разм. 72 см. з метал. затвор., выпрац. арцелі „Чырвоны абутнік"—Копысь, Аршанскага Лесдрэўхімсаюза, фр-ко-арцель—17 р.

8. Таксама разм. 90 см. выпрац. той-жа арц.—25 р.

9. Таксама разм. 63 см. выпрац. той-жа арц.—15 р.

10. Абычайка дл. 1,5 мт., шыр. ад 13 см. і выш., выпрац. арцел. Мазырскага Лесдрэўхімсаюза, фр-ко ст. адпраўлен. за капу (60 шт.)—22 р.

11. Саначкі дзіц., спарт., „Давос" з цверд. пароды, акованы жал. шынкай, выпрац. арцелі „Чырвоны абутнік"—Копысь, Аршанскага ЛДХС, фр-арцель—8 р.

---

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Пакончыць з выпускам дрэннай прадукцыі арцелямі промкаапераціі. Бракаробаў і парушыцеляў палітыкі совецкага гандля—да суровай адказнасці!

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

### № 33

10/I—36 г. г. Менск

Праведзенай Наркамунутгандлем БССР праверкай выканання пастановы СНК БССР № 1399 ад 31/VIII—35 г. па Бабруйскаму і Менскаму швейсаюзам, Менскаму скурпромсаюзу, устаноўлена, што:

а) арцель „Чырвоны металіст" (Бабруйск) выпусціла ў продаж веласіпеды па цэнах нікім не ўстаноўленых па (685 руб. за веласіпед, замест максімальнай цаны, якая магла быць устаноўлена для промкаапераціі—325 руб.);

б) Глуская арцель „Прагрэс" выпусціла ў продаж нягодныя па якасці валенкі па цэнах нікім не ўстаноўленых (12 руб. за пару, замест іх максімальнай цаны 6 р.—6 р. 50 к.);

в) Бабруйская арцель „Сіла працы" выпрацоўвае і выпускае ў продаж хатнія туфлі і сандалі нізкай якасці і нягодныя для носкі без устаноўленых і зацверджаных цэн;

г) Парыцкая трыкатажная арцель выпускае ў продаж нягодныя па якасці дзіцячыя блузкі па яўна спекуляцыйных цэнах—16 руб .65 к. за блузку, замест яе максімальнай цаны 4—5 руб.;

д) арцель „Чырвоны абутнік" (Менск) выпускае бразентавыя туфлі без зацверджаных цэн. Таксама выпускаюць прадукцыю без зацверджаных цэн арцелі: „Крупская" і „Пролетарый" (Менск), „Перамога" (Смалявічы), „Чырвоная зорка" (Чэрвень) і арцель „Новы шлях".

Паказаныя факты сведчаць, што асобныя работнікі промкаапераціі і тыя гандлёвыя работнікі, якія прадавалі дрэнную прадукцыю арцеляў, не гледзячы на рад папярэджанняў, асабліва пасля пастановы СНК БССР № 1399 ад 31/VIII—35 г., яшчэ не знішчылі нэпманска-гандлярскіх тэндэнцый.

Выходзячы з гэтага Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Даручыць прэзідыуму Белкаапромсовета зняць старшыню Глускай арцелі „Прагрэс" т. **Левіна** з работы і вінаватых у выпуску нягодных валенак і продажу іх па самавольных і спекуляцыйных цэнах (у прыватнасці заг. вытворчасці) аддаць пад суд.

Дырэктару Бабруйскага Раймага т. **Вайнштэйну**, дапусціўшаму пакупку валенак у гэтай арцелі без узора—абвясціць суровую вымову.

2. У сувязі з тым, што старшыня арцелі „Сіла працы", якая вырабляе сандалі і тапачкі нягоднай

якасці і без сцілкі працуе ўсяго месяц у арцелі, даручыць Белкаапромсовету выявіць канкрэтных вінаватых і прыцягнуць іх да суровай адказнасці.

3. Загадчыку магазіна ЦРК тав. **Зубарэвічу** за прыёмку і продаж у магазіне нягоднага тавара абвясціць суровую вымову.

4. Даручыць Белкаапромсовету разглядзець пытанне аб Бабруйскай арцелі „Прагрэс“, якая вырабляе жаночыя тапачкі нізкай якасці.

5. Даручыць т. **Багдановічу** (Бабруйскі Горунутгандаль) і тав. **Гарэліку** (Бабруйскі Белгандаль) выявіць магчымасць далейшага астаўлення заг. магазіна № 5 т. **Добкіна** на рабоце загадчыка промтаварнага магазіна, маючы на ўвазе, што т. **Добкін** на працягу 9 год працаваў у грамадскім харчаванні і нічога не разумее ні ў таварах, ні ў парадку гандля. Тт. **Багдановічу і Гарэліку** паведаміць аб сваім рашэнні НКУГ БССР.

6. З прычыны таго, што член прэзідыума Металаспецпромсаюза т. **Жэвелеў** просіць 10 дзён для падрабязнага азнаямлення з пытаннем вырабаў веласіпедаў Бабруйскай арцеллю і з прычынамі ўстанаўлення самавольна высокай цаны—пытанне адкласці і прапанаваць спецпромсаюзу на працягу 10 дзён даслаць НКУГ канкрэтнае заключэнне з указаннем асоб, вінаватых у выпуску веласіпедаў без зацверджаных цэн.

7. Абавязаць гандлюючыя арганізацыі пры прыёмцы тавараў ад промкааперацыі, кааперацыі інвалідаў і грамадскіх арганізацый патрабаваць выпіскі з пастановы Канвенцбюро аб устанаўленні адпускной цаны на гэты тавар.

Нам. Наркома Ўнутранага
Гандля БССР **І. ВЕРБА.**

* * *

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

15-І—36 г. **№ 44** г. Менск

Праверкай захавання ўстаноўленых Канвенцбюро цэн і тэхнічных умоў на вырабы арцеляў промкааперацыі па некаторым Магілеўскім арцелям устаноўлена, што Магілеўская меблевая арцель сістэматычна парушае цэны і тэхнічныя ўмовы, устаноўленыя Канвенцыйным Бюро НКУГ БССР. Так, матрацы „перынка“ прадаюцца гэтай арцеллю па 31 р. 50 к., замест устаноўленых 24 руб., табурэткі нізкай якасці—па 5 руб.—замест 3 р. 25 к., этажэрка альховая на 4-х паліцах—па 25 руб.. замест максімальнай цаны, устаноўленай Канвенцбюро для добраякаснай дубовай этажэркі ў 19 р. 44 к. Арцель парушае тэхнічныя ўмовы і проста абманвае пакупніка: прадае мяккую меблю (канапы) без скрыні па цэнам, як з скрынямі.

Парушаюць устаноўленыя цэны і тэхнічныя ўмовы таксама арцелі „1-е Мая“ Магілеўскага скурпромсаюза і трыкатажная арцель імя Крупскай, Аршанскага швейсаюза.

Выходзячы з гэтага НКУГ БССР пастанаўляе:

1. Матэрыялы абследвання па Магілеўскай меблевай арцелі „Чырвоны мебельшчык“ перадаць пракурору для прыцягнення вінаватых да судовай адказнасці за скажэнне совецкай палітыкі цэн і выпуск нядобраякаснай прадукцыі.

2. Матэрыялы абследвання па арцелях „1-е Мая“ і імя Крупскай перадаць Белкаапромсовету для выяўлення вінаватых у продажу нядобраякаснай прадукцыі і незахаванні ўстаноўленых цэн—для прыцягнення да адказнасці і на працягу 10 дзён праінфарміраваць НКУГ аб прынятых мерапрыемствах па паказаных матэрыялах.

3. Абавязаць таварыства „Друг детей“ зараз-жа прадставіць Канвенцыйнаму Бюро неабходныя матэрыялы для зацверджання цэн на яго вырабы.

4. Абавязаць Магілеўскі Райунутгандаль т. **Моіна** ў бліжэйшы час праверыць астатнія арцелі Магілеўскай промкааперацыі і кааперацыі інвалідаў і правесці нараду арцеляў разам з гандлюючымі арганізацыямі па пытаннях цэн, якасці вырабаў арцеляў, пашырэння асартымента шырспажыва. На нарадзе прапрацаваць гэтую пастанову.

Народны Камісар Унутранага
Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ.**

* * *

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

20-І—36 г. **№ 61** г. Менск

Лічыць устаноўленым, што Бабруйская арцель „Чырвоны металіст“, выпрацоўваючы веласіпеды, прадавала іх па павышаных цэнах.

У дадатак да пастановы № 33 ад 10/І—36 г., Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Папярэдзіць старшыню Белметалапромсаюза **т. Талкачова** і старшыню арцелі „Чырвоны металіст“ **т. Кузняцова**, што пры паўтарэнні падобных выпадкаў яны будуць прыцягнуты да судовай адказнасці.

2. На падставе пастановы Саюзнаркамунутгандля № 126 ад 27-га лютага 1935 г. устанавіць аптоваадпускную цану на веласіпеды, вытворчасці арцелі „Чырвоны металіст“ — 300 руб за шт. без камер і пакрышак.

3. Прапанаваць **т. Цофіну** правесці абследванне Металапромсаюза ў галіне цэнаўтварэння і якасці выпускаемай прадукцыі металаарцелямі і на бліжэйшым паседжанні Канвенцбюро дакласці аб выніках абследвання.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ.**

# Узмацніць рэалізацыю бела-булачных вырабаў і мукі

## Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

17/I—36 г. **№ 47** г. Менск

У сувязі з ускладзеным Саюзнаркамунутгандлем задання аб абавязковай рэалізацыі ў БССР у першым квартале гг. 3500 тон высокасортнай мукі, як у рознічным продажу, так і выпечкай бела-булачных вырабаў, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

I. Абавязаць усе хлебавыпякаючыя і гандлюючыя арганізацыі безумоўна рэалізаваць вызначаныя ім фонды высокасортнай мукі па рознічнай продажы і выпечкі бела-булачных вырабаў на першы квартал.

2. Абавязаць усе гандлюючыя арганізацыі прыняць рашучыя меры па максімальнаму пашырэнню рэалізацыі высокасортнай мукі, шляхам поўсеместнай продажы яе праз усе пункты, ні ў якім разе не дапускаючы перабояў у задавальненні попыта на гэтую муку.

3. Абавязаць белтрэст „Галоўхлеб", аддзел нетрэсціраванага хлебапячэння БКС, Белхарчпромсаюз. Белкаапінсаюз разгарнуць выпечку шырокага асартымента бела-булачных вырабаў і баранак, недапускаючы ніякіх перабояў у забеспячэнні гандлёвай сеткі гэтымі вырабамі

4. У сувязі з дазволам продажу бела-булачных вырабаў праз сетку Белпромгандлю ў раённых цэнтрах—абавязаць Белпромгандаль прыняць неадкладныя меры па прыстасаванню сваіх крам да гандлю гэтымі вырабамі і забяспечыць бесперабойны гандаль імі ў шырокім асартыменце.

5. Улічваючы асаблівую важнасць у справе павышэння рэалізацыі высокасортнай мукі праз выпечку і продаж баранак, абавязаць Белкаапсаюз, Белхарчпромсаюз і Белкаапінсаюз максімальна разгарнуць выпечку і продаж баранак усіх гатункаў (сушкі, баранкі сахарныя, бублікі) па ўсіх населеных пунктах (ва ўсіх крамах сельпо) і арганізацыі продажу латошнікамі баранак у сельскіх школах і па вёсках, на базарах, ярмарках, а таксама розных буфетах і станцыях чыгункі.

6. Райунутгандлям і ўсім гандлюючым і выпякаючым арганізацыям улічыць, што высокасортная мука, як для выпечкі бела булачных вырабаў, так і для продажу натурай будзе адпускацца ў колькасці, якая забяспечвае поўнасцю патрэбнасць раёна.

7. Улічваючы, што да гэтага часу, не гледзячы на рад дырэктыў Наркамунутгандля БССР, адсутнічае поўны асартымент бела-булачных вырабаў, як у гарадах, так і ў раённых цэнтрах і што з боку Гор. Райунутгандляў няма нагляду за разгортваннем выпечкі і продажу ўсіх гатункаў бела-булачных вырабаў і асабліва баранак—папярэдзіць усіх Гор. Райунутгандляў аб іх асабістай адказнасці за рэалізацыю высокасортнай мукі ва ўсіх відах і разгортванне гандлю поўсемесна шырокім асартыментам бела-булачных вырабаў і баранак

8. Прапанаваць усім хлебавыпякаючым і гандлюючым арганізацыям на аснове мерапрыемстваў па максімальнаму пашырэнню рэалізацыі бела-булачных вырабаў і мукі па продажу натурай, тэрмінова перагледзець свае квартальныя заяўкі на высокасортную муку на першы квартал з тым, каб сярэдне-месячную рэалізацыю першага квартала павялічыць не менш чым на 40—50 проц. і больш супроць рэалізацыі ў снежні 1935 г.

Народны Камісар Унутранага
Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ.**

---

# Рэарганізацыя мясцовых торгаў БССР

## Загад па Народнаму Камісарыяту Унутранага Гандля БССР

17-I—36 г. **№ 44** г. Менск

У адпаведнасці з пастановай СНК Саюза ССР ад 511—36 г. „Аб кіраўніцтве гарадской гандлёвай сеткаю сістэмы Наркамунутгандля СССР" і зацверджанай ЦП КП(б)Б і СНК БССР структуры мясцовых торгаў,—стварыць на базе існуючых торгаў і прынятай сеткі ад спажыўкааперацыі наступныя мясцовыя торгі.

**1. Рэспубліканскі харчовы торг** (Белхарчгандаль) з гарадскімі канторамі ў гарадох: Віцебск, Гомель, Магілёў, Бабруйск, Орша, Барысаў, Мазыр, Полацк, Слуцк. Рэчыца

У складзе гарадскіх кантор Белхарчгандля ў гарадох: Віцебск, Гомель, Магілёў і Бабруйск **вылучыць наступныя гаспадарча-разліковыя канторы:**

**а) Хлеба-фуражную; б) плодагародную.**

**2. Рэспубліканскі промтаварны торг** (Белпромгандаль) з гарадскімі канторамі ў гарадох: Менск, Віцебск, Гомель, Магілёў, Бабруйск, Орша, Барысаў, Мазыр, Полацк і Слуцк.

**3. Менскі гарадскі харчовы торг** (Менхарчгандаль).

У складзе Менхарчгандля **вылучыць наступныя гаспадарча-разліковыя канторы:**

**а) Хлеба-фуражную; б) плодагародную; в) сезоннай сеткі** (воды, марожанае, ларкі, кіёскі і г. д.)—„Менларок".

4. Рэарганізацыю правесці у адпаведнасці з загадам па НКУГ БССР ад 6-I—36 г. № 21.

5. Прапанаваць тт. **Кантару, Крэйніну і Тіменка** прадставіць мне на зацверджанне:

а) палажэнне аб торгах і размер статутнага фонда;

б) кандыдатуры намеснікаў дырэктароў торгаў, дырэктароў гарадскіх кантор, дырэктароў гаспадарча-разліковых кантор і галоўных бухгалтароў кантор.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ.**

# Суровае папярэджанне тым, хто ігнаруе гандаль- дастатковымі таварамі

## ПАСТАНОВА

### Упаўнаважанага Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі пры НКУГ СССР па БССР

20/I—36 г. **№ 13** г. Менск

Праведзенай праверкай выканання гандлюючымі арганізацыямі і гандлёвымі прадпрыемствамі Менска загада НКУГ СССР № 2091 ад 29/XII—35 г. па пытанню насычанасці сеткі дастатковымі таварамі (соль, цукар, запалкі, махорка, монпасье-падушачка без абвёрткі, мыла гаспадарчае, мыла туалетнае) устаноўлена:

1. Да гэтага часу не спушчаны гандлюючымі арганізацыямі магазінам план таваразварота па 8 дастатковым таварам у разрэзе паасобных тавараў, з прычыны чаго не прадстаўляецца магчымым вызначыць адпаведнасць наяўнасці іх 10-дзённаму запасу.

2. У радзе магазінаў Менхарчгандля: № 57 (заг. **Фельдман**), № 25 (заг. **Каспяровіч**), № 21 (заг. **Рубіна**), № 97 (заг. **Сотнікаў**) і № 50 (заг. **Гайдзенсон**)—адсутнічае ў продажы соль, прычым у магазіне № 97 адсутнічала соль і пры паўторнай праверцы 16/I.

3. У магазінах ОРС'а ДН-3 № 34 (заг. **Свінарэнка**) і № 23 (заг. **Мільбіт**) адсутнічалі ў продажы соль і канфеты дзяшовых гатункаў.

4. У магазінах Менхарчгандля № 45 (заг. **Ратамская**), № 23 (заг. **Мазелеў**), № 22 (заг. **Хархурын**), № 94 (заг. **Чэчка**) і № 59 (заг. **Глайхенгауз**) адсутнічаюць канфеты дзяшовых сартоў, у 22 магазінах Менхарчгандля (з правераных 74) адсутнічае ў продажы монпасье і ў 38 магазінах няма ў продажы туалетнага мыла (пры наяўнасці апошняга на базе).

5. Адсутнасць гандлю соллю магазінамі Менхарчгандля (пры дастатковай наяўнасці на складзе) з'яўляецца вынікам прамога нежадання з боку заг. магазінаў № 57, 25, 21, 50 гандляваць соллю, не гледзячы на неаднаразовыя пастановы ўрадавых органаў, а з боку заг. магазіна № 97 **Сотнікава**—прамым сабатажам пастановы НКУГ СССР № 2091 і інш. указанняў аб абавязковым гандлі соллю.

Выходзячы з гэтага і ў адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 19/X—34 г. пастанаўляю:

1. Пытанне аб прыцягненні да адказнасці кіраўнікоў гандлюючых арганізацый за недавядзенне плана па дастатковых таварах да сваёй перыферыі аставіць адкрытым да сканчэння дадатковай праверкі.

2. Прапанаваць дырэкцыі Менхарчгандля т. **Тіменка**—за сабатаж у гандлі соллю зняць з работы заг. магазіна № 97 **Сотнікава** і за невыкананне пастановы НКУГ СССР № 2091 аб абавязковым гандлю соллю—абвясціць суровую вымову з папярэджаннямі з занясеннем у працоўны спіс заг. магазіна № 57 т. **Фельдману,** № 50 т. **Гайдзенсону,** № 21 т. **Рубінай** і № 25 т. **Каспяровічу.**

3. Прапанаваць Нач. Менскага аддзела ОРС'а ДН-3 т. **Галоўка** за адсутнасць солі і канфет у продажы абвясціць суровую вымову заг. магазіна № 34 т. **Свінарэнка** і заг. магазіна № 23 т. **Мільбіту.**

4. Папярэдзіць дырэкцыю Менхарчгандля і ОРС'ам ДН - 3, кіраўнікоў іншых гандлюючых арганізацый, а таксама ўсіх загадчыкаў магазінаў, што пры далейшым выяўленні невыканання пастановы НКУГ СССР № 2091 аб гандлю дастатковымі таварамі, вінаватыя будуць прыцягнуты да стражайшай адказнасці.

5. Гэтую пастанову дырэкцыі Менхарчгандля і ОРС'а ДН - 3 разаслаць па ўсіх гандлёвых прадпрыемствах іх сістэмы.

6. Копіі сваіх загадаў аб выкананні гэтай пастановы даслаць у Дзяржаўную Гандлёвую Інспекцыю пры НКУГ СССР па БССР. (Дом Урада, пак. № 404)—у 3-х дзённы тэрмін.

Упаўнаважаны Дзяржаўнай Гандлёвай
Інспекцыі НКУГ СССР па БССР **ЛЕВІН.**

---

## Аб умовах водпуска хлебапрадуктаў пунктамі „Заготзерно"

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР і Упаўнаважанага Камітэта Загатовак СНК СССР па БССР

16-I—36 г. **№ 45** г. Менск

У адпаведнасці з тэлеграфным распараджэннем Наркамунутгандля СССР т. **Вейцэра** і Камзага СНК СССР т. **Клейнера**— № 10209 ад 11-I—36 г. Наркамунутгандаль БССР і Ўпаўкамзаг пастанаўляюць:

1. Абавязаць Белкантору „Заготзерно":

а) Ні ў якім разе не пагаршаць у 1936 г. умовы водпуска хлебапрадуктаў гандлёвым і хлебавыпякаючым арганізацыям у параўнанні з умовамі, існаваўшымі ў 1935 г.

б) Не спыняць водпуска крупы і мукі загатоўчымі пунктамі (глыбінныя раёны), маючых у наяўнасці гэтыя прадукты да зацверджання сеткі збытавых баз.

2. Абавязаць Горунутгандлі і Райупаўкамзагі СНК сачыць за выкананнем гэтай пастановы, недапускаючы ніякага пагоршання ўмоў водпуска хлебапрадуктаў хлебавыпякаючым і гандлюючым арганізацыям аддзяленнямі і пунктамі „Заготзерно".

Нарком Унутранага
Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

Упаўкамзаг СНК СССР
па БССР **ГВАЗДЗЕЦКІ**

# ЦЭНЫ

## Паніжаныя рознічныя цэны на абутак арцеляў промкааперацыі

**Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

**№ 68**

3 студзеня—36 г. г. Менск

У змену пастановы Наркамунутгандля БССР № 21 ад 8/I—36 г. і № 41 ад 14/I—36 г.,—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. У сувязі з тым, што абутак выпрацоўкі саматужна-прамысловай кааперацыі па рабоце і якасці матэрыялаў (адыход дзяржпрамысловасці і скурсурагаты) ніжэй абутка фабрык дзяржпрамысловасці, устанавіць паніжаныя рознічныя цэны на паасобныя артыкулы ў параўнанні з устаноўленымі цэнамі для абутка дзяржпрамысловасці:

| Назва абутка | Да якога стандарта прыраўнен па прэйскуранту | Адзіная рознічная цана | | Адзіная рознічная цана на абутак саматужна-прамысловай кааперацыі | |
|---|---|---|---|---|---|
| Бацінкі недам. раз 31—34, чор. хр. выраст., праш. на скур. падаш. | 2060 чв | 14 | 50 | 12 | 50 |
| Таксама з чорн. шэўрэта або росш. | 3060 чд | 15 | 00 | 13 | 00 |
| Таксама з карычн. шэўро | 3060 цд | 15 | 00 | 13 | 00 |
| Бацінкі недамер. з чорн. хр. выраст. прашыўн. разм. 31—34, на гум. падаш. | 3060 чв | 14 | 50 | 12 | 50 |
| Таксама з чорн. шэўрэта або росшэўро | 3063 чд | 15 | 00 | 13 | 00 |
| Таксама з карычн. шэўрэта або росш. | 3063 цд | 15 | 00 | 13 | 00 |
| Бацінкі дзіцяч. з чорн. хрома, вырастка, прашыўн., на скур. падашве, разм. 27—30 | 2070 чв | 12 | 00 | 11 | 00 |
| Таксама з чорн. шэўр. або росш. | 2070 чд | 12 | 00 | 11 | 00 |
| „ з карычн. | 2070 цд | 16 | 00 | 15 | 00 |
| Бацінкі мал. дзіцяч. з чорн. хрома вырастка, праш. на скур. падаш., раз 23—26 | 2080 чв | 11 | 25 | 10 | 50 |
| Таксама з чорн. шэўрэта або росшэўро | 2080 чв | 11 | 50 | 10 | 75 |
| Таксама з карычн. шэўрэта або росшэўро | 2080 цд | 14 | 00 | 13 | 00 |
| Лодачкі жаноч. хром. або з шэўрэта, скур. падкладка ў задніку сцілка скур. картон. мех. прашыўн.. гум. падашва. | 3043 чд | 23 | 00 | 17 | 00 |
| Лодачкі хром. шэўро, скур. падкладка ў задніку, сцілка скуран., заднік скур. картон, гум. падашва, шпількова праж. | 4047 чб | 24 | 00 | 20 | 00 |
| Бацінкі мальчык., чорн. хром. вырастка гум. падашва., прашыўн. | 2023 чв | 17 | 00 | 15 | 00 |
| Таксама з карычн. хром. выраст. | 2023 цв | 19 | 00 | 17 | 00 |
| Таксама з чорн. шэўро або росшэўро | 2023 чд | 18 | 00 | 16 | 00 |
| Таксама з карычнев. шэўро або росшэўро | 2023 цд | 19 | 00 | 17 | 00 |
| Бацінкі мужчынск., шчагрынен. на гумав. падашве | 2003 чю | 27 | 00 | 24 | 00 |
| Паўбацінкі бразентав. на маналітнай падашве, прашыўн.. механічн. | 2603 чт | 21 | 00 | 18 | 00 |
| Лодачкі хромав. або шэўрэт. скуран. падашва, на драўлян. каблуку, скуран. падкладка, шытыя | 06146 цб | 48 | 00 | 48 | 00 |

2. Устаноўленыя цэны распаўсюдзіць на прадукцыю І-га сорта, выпрацоўваемую арцелямі з 1 студзеня 1936 г. Цэны на II сорт адпускаюцца са скідкай у 10 проц. з цэн І-га сорта. Цэны на III-ці сорт са скідкай на 20 проц. з цэн І-га сорта.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ.**

## Паніжаныя цэны на крухмала-патачную прадукцыю

**Усім Горрайунутгандлям і гандлюючым арганізацыям**

Пастановай Совета Народных Камісараў Саюза ССР ад 27 лістапада 1935 года за № 2546 устаноўлены наступныя паніжаныя цэны на крухмала-патачную прадукцыю (адпускныя цэны прамысловасці):

1. **Кукурузная і бульбяная патака,** плотнасцю 42° па Боме:
   - а) вышэйшы гатунак . . . . . . 1700 руб. тона
   - б) першы „ . . . . . . 1630 „ „
   - в) другі „ . . . . . . 1450 „ „
   - г) вараная „ . . . . . . 1150 „ „
2. **Бульбяны сухі крухмал:**
   - а) вышэйшы гатунак—(экстра) . . 1680 „ „
   - б) вышэйшы гатунак „Прыма“ . 1560 „ „
   - в) першы гатунак . . . . . . . . 1500 „ „
   - г) другі гатунак . . . . . . . . 1300 „ „
3. **Кукурузны сухі крухмал:**
   - а) вышэйшы гатунак—(экстра) . . 1430 „ „
   - б) першы гатунак . . . . . . . . 1350 „ „
   - в) другі гатунак . . . . . . . . 1000 „ „
4. **Саго штучнае** . . . . . . . . 2400 „ „
5. **Крупка бульбяная** . . . . . . 650 „ „
6. **Мальтоза,** плотнасцю 42° па Боме 1600 „ „
7. **Глюкоза** тэхнічная бульбяная і кукурузная, плотнасцю 38° па Боме 1800 „ „
8. **Дэкстрын:**
   - а) вышэйшы гатунак . . . . . . 2200 „ „
   - б) першы гатунак . . . . . . . . 2150 „ „
   - в) другі гатунак . . . . . . . . 2100 „ „

Паказаныя цэны ўстаноўлены франка-станцыя адпраўлення.

Згодна гэтай пастановы гэтыя цэны ўстаноўлены з 1 кастрычніка 1935 года.

Гандлюючыя арганізацыі па атрыманні гэтых цэн павінны зараз-жа ўвесці іх у дзеянне, прычым Горрайунутгандлі, з прычыны таго, што гэтая прадукцыя з'яўляецца трэцяй групай—павінны прасачыць за тым, каб рознічныя цэны (накідкі) на месцы былі адзіныя.

Аб парадку перараэліка з дзяржпрамысловасцю і Наркамфінам дашлем вам дадаткова.

Нач. аддзела арганізацыі гандлёвай сеці і рэгулявання цэн НКУГ БССР. **КАМЯНЕЦКІ.**

## Аптова-рознічныя цэны на спіцу і обад

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

19 снежня 1935 г. **№ 942** г. Менск

На падставе распараджэння Саюзнаркамунутгандля № 12556 ад 25/VI—35 г. Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць спецыяльныя аптовыя цэны і рознічныя цэны на матэрыялы, рэалізуемыя ва ўзорным камерцыйным магазіне Саюздрэўзбыта ў Менску.

| Назва матэрыялаў | Адзінка вымяр. | Спецыяльн. аптов. цана | Рознічная цана |
|---|---|---|---|
| 1. Спіца звычайная | 1 шт. | 0—13 кап. | 0—16 кап. |
| 2. Обад ясеневы сялянскі—72 *см.* | 1 „ | 6—08 „ | 7—15 „ |
| 3. Обад ясеневы сялянскі—57 *см.* | 1 „ | 4—81 „ | 5—70 „ |

Розніца паміж спецыяльнай аптовай цаной і рознічнай з'яўляецца гандлёвай накідкай у карысць гандлюючай арганізацыі.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **І. ВЕРБА.**

## Парадак устанаўлення рознічных цэн на безалкагольныя напіткі

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

10/I—36 г. **№ 36** г. Менск

На падставе тэлеграмы Саюзнаркамунутгандля № 72741,—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць, што адпускныя цэны на безалкагольныя напіткі прадпрыемстваў Наркамхарчпрома ўстанаўліваюцца Наркамхарчпромам, адпускныя цэны на безалкагольныя напіткі прадпрыемстваў НКМясцпрома БССР—устанаўліваюцца НКМПромам БССР па ўзгадненню з Наркамунутгандлем БССР.

Адпускныя цэны на безалкагольныя напіткі іншых вытворчых арганізацый устанаўліваюцца самімі вытворчымі арганізацыямі па ўзгадненню з Наркамунутгандлем БССР.

2. Устанавіць, што рознічныя цэны на безалкагольныя напіткі ўстанаўліваюцца гандлюючымі арганізацыямі, як на тавары III групы і абавязкова на працягу 3-х дзён паведамляюцца Наркамунутгандлю.

3. Абавязаць Горраўунутгандляў не дапускаць разнабоя рознічных цэн на безалкагольныя напіткі паміж асобнымі гандлюючымі арганізацыямі ў адным горадзе па аднаму і таму-ж гатунку.

Наркамунутгандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ.**

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

### Бюро спроса и предложения товаров при Наркомвнуторге БССР

г. Минск, Советская ул., Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 415, тел. 22-540. Адрес для телеграмм—МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской Конторе Госбанка № 160/10076.

# ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

### Пищевкусовая группа:

Мед искусственный паточный жидкий 1-го сорта—40 тонн—2 200 р. тонна, фр. ст. отправления, тоже 50 тонн—2 150 р. тонна, тоже 35 тонн—2 000 р. тонна фр. склад продавца, тоже 50 тонн—2 000 р. фр. вагон ст. отправления.

Повидло яблочное 100 тонн—3 250 р. тонна, фр. склад продавца.

Тесто яблочное 1-го сорта—100 тонн—1 130 р. тонна, тоже II-го сорта 100 тонн—1017 р. тонна, фр. вагон ст. отправления.

Варенье яблочное (яблоки в сиропе)—200 тонн—3 300 р. тонна для 1-го пояса, 3 500 р.—для второго пояса, 3 600 р. для 3-го пояса и 3 900 р. для 4-го пояса, фр. завод.

Соки брусничные 10 000 дк/литр. —25 р 20 к. дк/литр, тоже клюквенные 10 000 дк/литр —24 р. 30 к. дк/литр, тоже яблочные 10 000 дк/литр.—18 р. дк/литр, фр. завод продавца.

### Промтоварная группа:

Чуни веревочные из льняных отходов, льняной кудели или луба—25 000 пар—3 р. 50 к. пара, фр. склад продавца.

Оси железные с чугунными втулками № 2—500 шт.—22 р. шт., замки висячие амбарные крашенные 2 000 шт.—6 р. 30 к. шт. тоже амбарные чугунно-литые крашенные 2 000 шт.—6 р. 25 к. шт.

Тиски параллельные не поворотные 80 мм—100 шт —32 р. шт., фр. склад продавца.

Лодки для катания—шлюпки двухгребки и одногребки, крашенные маслянной краской, борты белые—100 шт. —240 р., двухгребки и 230 р. одногребки, фр. склад продавца.

Топоры плотничные белорусского образца 15 000 шт.—7 р. 30 к. шт., фр. склад производство.

Веревка мочальная от 5—6 мт. длины—1 200 шт. по 69 к. шт., фр. склад продавца.

Рогожки из деревянной стружки—100 000 шт.,—1 р. шт., фр. склад продавца.

### Лесохимическая группа:

Гуталин черный 100 000 банок—2 р. 80 к. десяток, фр. производство.

Сурик желтый тертый—20 тонн—550 р. тонна, мумий 10 тонн—650 р. тонна, охра 5 тонн—750 р. тонна зелень 5 тонн—2 300 р. тонна, крон сухой (клеевой) 5 тонн—2 000 р. тонна.

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405, тэл. 23-287.

Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 143. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 3213.

